ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXIII № 315 Нью Ёрк — студзень — 1984 — January — New York Vol. XXXIII № 315

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ

**(На 100-годзьдзе ад нараджэньня)**

Адзін зь першых вялікіх юбілеяў сёлетняга году — 100-годзьдзе ад нарадзінаў выдатнага дзеяча беларускага нацыянальнага руху, публіцыста, літаратурнага крытыка й дзяржаўна-палітычнага лідэра — Антона Луцкевіча.

Нарадзіўся Антон Луцкевіч, як падае ў біяграфічнай даведцы пра яго Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя (т. 6, 1972 г.), 31 студзеня 1884 г. ў горадзе Шаўлі Ковенскае губэрні. Памёр-жа (фактычна, загінуў, як палітычны вязень) у 1946 годзе. Месца сьмерці БелСЭ не падае, але, як пісала пра гэта ў вялікім артыкуле ,прысьвечаным Антону Луцкевічу, Аляксандра Бэргман, памёр ён у ваколіцах гор. Сяміпалацінску, гэта значыцца, на выгнаньні ў Казахстане..

Артыкул А. Бэргман зьявіўся дзесяць гадоў таму ў варшаўскім квартальніку „Пшэглёнд гісторычны" (у чацьвертым нумары за 1974 год) і становіць тымчасам найпаўнейшую крыніцу біяграфічных вестак пра Антона Луцкевіча.

Антонаў бацька, Іван Луцкевіч, піша А. Бэргман, паходзіў із старое беларускае сям'і гэрбу Навіна, быў ахвіцэрам ,гэроем Севастопальскае вайны. Калі Антон нарадзіўся, бацька ягоны працаваў чыгуначным урадаўцам (адсюль і цьверджаньне ў БелСЭ: „Зь сям'і чыгуначніка".).

Па сканчэньні менскае гімназіі, у 1902 г., Антон разам із сваім старэйшым братам Іванам падаўся на навуку ў Пецярбург на прыродаведу. Там зь ініцыятывы братоў Луцкевічаў паўстаў Беларускі Гуртток Народнае Асьветы, а неўзабаве, увосень 1903 г., і першая беларуская палітычная арганізацыя — Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, перайменаваная ўзімку таго-ж году ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду (БСГ). Партыя гэтая павяла змаганьне з царскім самаўладзтвам за самавызначэньне Беларусі, галоўна шляхом адраджэньня й разьвіцьця беларускае культуры.

Ад самага пачатку дзейнасьці БСГ Антон Луцкевіч разам із сваім братам Іванам уваходзіў у склад ейнага кіраўніцтва, браў актыўны ўдзел у фармуляваньні палітычнае праграмы, а ад 1906 году, калі Грамада пачала выдаваць у Вільні свой неафіцыйны друкаваны орган — спачатку газэту „Наша Доля", а тады газэту „Наша Ніва" — Антон стаўся ейным галоўным публіцыстам. Падпісваў ён свае артыкулы рознымі псэўданімамі й крыптанімамі (Антон Навіна, Гэнрык Букавецкі, Іван, Г. Б., А. Н-а ды інш.), вёў у „Нашай Ніве" цэлыя разьдзелы, як прыкладам, „З газэтаў", „З Расеі", „У Думе і каля Думы".

Калі „Наша Ніва" пачала выдаваць у форме кніжкі свой каляндар, грамадзка-літаратурны разьдзел у ім запаўнялі артыкулы Антона Луцкевіча. У першым выданьні Вялікае Савецкае Энцыкляпэдыі адзначалася, што ў нашаніўскім пэрыядзе „ў беларускай публіцыстыцы найвыдатнейшы публіцыст — Антон Навіна".

Багаты сьлед пакінула па сабе Лучкевічава пяро і ў газэце „Гоман", што выдавалася ў Вільні пад нямецкай акупацыяй у 1916-1918 гадох. Дваццатымі гадамі А. Луцкевіч шмат увагі ў сваёй публіцыстыцы прысьвячаў беларускай савецкай літаратуры. Частка ягоных літаратураведных матар'ялаў выйшла ў 1929 г. асобнай кніжкай „Адбітае жыцьцё", рэшта гэтак і засталася раськіданай па розных беларускіх, расейскіх і польскіх публікацыях.

Выдатная роля братоў Антона й Івана Луцкевічаў у станаўленьні Максіма Багдановіча як паэта. У 1911 годзе, хворы ўжо на сухоты Багдановіч наведаў, дзякуючы ім, Вільню. Браты Луцкевічы памаглі Багдановічу азнаёміцца зь Вільняй, з рэдакцыяй „Нашае Нівы", зь беларускай працай, якую газэта праводзіла; паэт пажыў у Луцкевічавых сваякоў на вёсцы, агледзеў музэйныя зборы Івана Луцкевіча (вынікам чаго стаўся цыкль вершаў „Старая Беларусь"). А ў 1913 годзе рэдакцыі „Наша Ніва" ўдалося выдаць славуты Багдановічаў зборнік вершаў „Вянок". Антон Луцкевіч у сваёй рэцэнзіі ў „Нашай Ніве" назваў кнігу „запраўднай пэрлай беларускае паэзіі". Максім Багдановіч адказаў на гэта прысьвятаю на паасобніку „Вянка", пад заг. „Пану Антону Навіне на спамін ад аўтара".



**Антон Луцкевіч у 1930-х гадох**

ПАНУ АНТОНУ НАВІНЕ НА СПАМІН АД АЎТАРА

Дзень добры, Пане! Вось Вам
простыя надпіс:
Ёсьць гэткая японская забаўка, —
Кідаюць дробныя аськёпкі дрэва
Ў ваду — і робяцца яны цьвятамі.
Усё гэта мне згадалася міжволі,
Калі чытаў я Вашую стацьцю
Аб вершыках „Вянка". І шлю
падзяку
І цісну руку. Ваш М. Багдановіч.

Заціраючы сьляды дзейнасьці Антона Луцкевіча, савецкая цэнзура ў „Зборы твораў" Максіма Багдановіча (Менск, выд. „Навука і тэхніка", т. I, б. 229) гэты верш зьмясьціла пад заг. „Пану... на ўспамін ад аўтара". Прапушчанае імя Антона Навіны-Луцкевіча і ў камэнтары да верша (б. 489).

Другое выданьне Багдановічавага „Вянка", на 10-я ўгодкі ад сьмерці паэта, выйшла таксама дзякуючы стараньням Антона Луцкевіча. Ён-жа напісаў да кнігі й прадмову — „цудоўную песьняю суму", як яе сахрактарызавала Аляксандра Бэргман: „Гэтак вобразна можа пісаць толькі чалавек, чулы на прыгажосьць паэзіі, які здолее наблізіць чытача да аўтара".

Калі Вільню 15 верасьня 1915 г. заняло нямецкае войска („Наша Ніва" тады ўжо больш ня выходзіла), у жыцьці Антона Луцкевіча пачаўся новы пэрыяд — пара ня толькі журналістычнае ды культурна-арганізацыйнае, але й палітычнае дзейнасьці. У цэнтры яе, разам з братам Іванам, Вацлавам Ластоўскім, Алёйзай Пашкевічанкай (Цёткай) ды іншымі быў і Антон Луцкевіч.

У Вільні ў гэным часе зарадзілася ідэя аднаўленьня гістарычнага Вялікага Княства Літоўскага, як беларуска-лятувіскае фэдэрацыі. „У Вільні ўжо ад 1915 году, — пісаў пасьля Антон Луцкевіч, — мы сталі на грунт дзяржаўнае незалежнасьці былое беларуска-літоўскае дзяржавы".

Палітычная рэчаіснасьць аднак неўзабаве выявіла нерэальнасьць гэтага праекту. Перамагла ідэя Беларускае Народнае Рэспублікі. Дарэчы, Аляксандра Бэргман у сваім артыкуле пра Антона Луцкевіча згадвае вельмі цікавы ягоны артыкул „Палітычныя лёзунгі беларускага руху", зьмешчаны ў віленскім зборніку 1920 году „Наша Ніва", якога, нажаль, у нас няма.

Сфармуляваньне незалежніцкае праграмы, кажа А. Бэргман, уважалася за якасны зрух у становішчы Беларусаў. Кульмінацыйным пунктам сталася абвешчаньне ўначы з 24-га на 25-га сакавіка 1918 г. незалежнасьці Беларусі. Антон Луцкевіч адыграў цімалаважную ролю ў выпрацаваньні й абвешчаньні акту незалежнасьці, пакаль-

(Закачэньне на б. 2-й)

# ПРАМОВА А. ГУРЫНОВІЧА Ў ААН І Ў САВЕЦКІМ ДРУКУ

**(Закачэньне з № 314)**

Нагадайма, што мы раўнуем поўны тэкст прамовы міністра замежных справаў Беларускае ССР Анатоля Гурыновіча на леташняй Генэральнай Асамблеі ААН і пераказ тае самае прамовы, зроблены Беларускім тэлеграфным агенцтвам (Белта) і выдрукаваны ў газэце „Зьвязда" (11. X. 83).

Мы мусім адразу-ж зазначыць, што ў факце самога пераказваньня прамоваў, а прыгэтым няўхільнага скарачаньня іх, няма нічога нязвычайнага. Кожная газэта практыкуе гэта — капіталістычная й сацыялістычная. Але, калі пры пераказваньні прамовы прапушчаюцца прынцыпова важныя заявы, цьверджаньні, факты й лікі, — як гэта Белта зрабіла з прамоваю Гурыновіча — дык справа набывае цімалое цікавасьці; тады паўстаюць міжвольна пытаньні: што перакажчыкі хаваюць ад свайго чытача? Зь якою мэтаю?

З Гурыновічавае прамовы, зьмешчанае ў рэспубліканскіх газэтах, Белта выпусьціла, аніяк не пераказаўшы іх, выказваньні міністра замежных справаў Беларусі пра савецкія ракеты сярэдняе дальнасьці ў Эўропе, пра колькасьць ядзерных баявых галовак у Савецкага Саюзу й Злучаных Штатаў; пра якасную перавагу амэрыканскае зброі ды, як мы ніжэй пабачым, пра глябальную ваенную заангажаванасьць Савецкага Саюзу (бо ў белтаўскім пераказе толькі Амэрыка ўсюды мае ваенныя базы ды плавае із зброяю па ўсіх акіянах сьвету).

Гэтак, у пераказе Белты ёсьць такі сказ: „Кіраўнік дэлегацыі БССР дэталёва спыніўся на новых прапановах Савецкага Саюзу аб асуджэньні ядзернай вайны і замарожваньні ядзернай зброі". І далей Белта перадае словы Гурыновічавага выступленьня, у якім на розныя лады паўтараецца фраза: „ЗША перашкаджаюць", „ЗША ствараюць", „ЗША нарошчваюць"... А на самой рэчы Гурыновіч казаў, як гэта відаць з ангельскага тэксту, выданага ў Нью Ёрку місіяй БССР пры ААН у форме прэсавага камунікату: „Савецкі Саюз прапануе", „Савецкі Саюз імкнецца", „Савецкі Саюз падтрымвае".

Што-ж вуснамі Гурыновіча Са-

(Закачэньне на б. 7-й)

# 35-ГОДЗЬДЗЕ БАЗА

У ліпені сёлета споўніцца 35 год ад часу, калі былі пакладзеныя арганізацыйныя асновы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА). Угодкі гэтыя павінны стацца нагодаю, каб азірнуцца на пройдзеныя шляхі, ушанаваць памяць усіх, хто працавіта йшоў па ім, падсумаваць зробленае, устанавіць чарговасьць бягучых заданьняў ды йсьці далей.

амэрыканскіх вышэйшых навучальных установах, фэстывалі й мастацкія выстаўкі ў Антарыё й Нью Джэрзы; выступы танцавальных гурткоў моладзі ў Тароньце й Кліўленьдзе ды шмат іншага, вакол чаго засярэджвалася беларуска-канадзкае й беларуска-амэрыканскае жыцьцё.

Ад часу, калі ў 1948-1949 гадох жыцьцё гэтае ўвайшло ў новую фа-

Western Union Mailgram

GOVT RM 87 OEOB
THE WHITE HOUSE
DC 20500 27AM

4-258603U300040 10/27/83 TWX WHITEHOUSE WSH JFKB
00144 GOVT WHITE HOUSE DC 10/27/83

ANTON SHUKELOYTS
CHAIRMAN
BYELORUSSIAN AMERICAN ASSOCIATION
166-34 GOTHIC DRIVE
JAMAICA, NY 11432

YOU ARE CORDIALLY INVITED TO A SPECIAL WHITE HOUSE BRIEFING ON U.S. POLICY AND ACTIONS IN GRENADA. THE BRIEFING WILL BE AT 12:30 P.M. IN ROOM 474 OF THE OLD EXECUTIVE OFFICE BUILDING (17TH AND PENNSYLVANIA AVE., N.W.) ON MONDAY, OCTOBER 31.

western union Telegram

QUA077(1830)(1-017708A348)PD 12/14/83 1829
ICS IPMMVIU MVN
04561 12-14 0521P CST MVIR
ICS IPM31QU
4-157601U348026 12/14/83
TWX WHITEHOUSE WSH DLY PD
00030 DLY GOVT WHITE HOUSE DC 12/14/83
PMS MR. ANTON SHUKELOYTS
BYELORUSSIAN AMERICAN ASSOCIATION
IN THE U.S.A.
166-34 GOTHIC DR.
JAMAICA, NY 11432
YOU ARE CORDIALLY INVITED TO A WHITE HOUSE CEREMONY AT WHICH PRESIDENT REAGAN WILL ANNOUNCE THE ESTABLISHMENT OF THE NATIONAL ENDOWMENT FOR DEMOCRACY. THE PRESIDENTIAL CEREMONY WILL BE FOLLOWED BY A RECEPTION IN THE INDIAN TREATY ROOM.

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне трымае лучнасьць з урадам і Кангрэсам ЗША, інфармуе іх пра свае пагляды ў пытаньнях палітыкі.**

Паколькі Згуртаваньне Беларусаў Канады (ЗБК) толькі што адзначылі сваё 35 годзьдзе і паколькі праблемы беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Канадзе й Злучаных Штатах маюць шмат падабенства, 35-гадовы пройдзены шлях і шлях, што ляжыць перад ЗБК і БАЗА, можа быць добрай тэмай сёлетняе Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, якая адбудзецца ў Кліўленьдзе ў канцатыдні Сьвята Працы 1-3 верасьня.

Беларусы Канады й Беларусы Злучаных Штатаў Амэрыкі за прамінулыя тры з палавінаю дзесяцігодзьдзі прарабілі вялікую грамадзкую, культурную, нацыянальна-ўзгадавальную ды палітычна-інфармацыйную працу. Пра гэта сьветчаць кніжныя й пэрыядычныя выданьні ў абедзьвюх краінах, грамадзкія й царкоўныя будынкі, вывешваныя ля гарадзкіх ратушаў у Канадзе й Амэрыцы бел-чырвона-белыя сьцягі, навуковыя беларусаведныя канфэрэнцыі ў канадзкіх і

зу, у арганізацыйныя рамкі ЗБК і БАЗА, вырасла цэлае новае пакаленьне Канадыйцаў і Амэрыканцаў беларускага паходжаньня. Гэта ўжо людзі сярэдняга веку, у шмат якіх выпадках з вышэйшай асьветай, з добрымі працамі, адказнымі становішчамі, зь сем'ямі, у якіх растуць прадстаўнікі ўжо трэйцяга пакаленьня Канадыйцаў і Амэрыканцаў беларускага паходжаньня.

Гэтым двум пакаленьням наступнікаў і пераймальнікаў таго, што было закладзена 35 год таму, павінна, думаецца нам, быць прысьвечана частка ўвагі ўдзельнікаў сёлетняе Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Варта было-б пастарацца, каб Сустрэча сталася нагодаю ня толькі азірнуцца назад, паглядзець, кудою мы йшлі, але й зірнуць наперад, каб пабачыць, куды мы йдзём ды як нам ісьці. Як перадаць малодшым нашае 35-гадовае дазнаньне, нашую сувязь зь мінуўшчынай, каб трывалейшай была будучыня.

# 35-Я УГОДКІ Й ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ

Летась 26-га лістапада ў сыботу канадыйскія Беларусы адзначалі ў Тароньце сьвяты: 35-я ўгодкі існаваньня найстарэйшае беларускае арганізацыі ў Канадзе — Згуртаваньня Беларусаў Канады й 63-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня, або Дзень Гэрояў.

Сьвяты пачаліся агульнай малітвай у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага. Першагіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай адслужыў кароткі малебен, пажадаў прысутным далейшых посьпехаў у працы для народу, паняволенай бацькаўшчыны й БАПЦ.

Удзельнікі сьвяткаваньня — гэтым разам ня толькі мясцовыя, але й ашаўскія, лёнданскія, дэтройцкія й брантфардзкія — спажылі ў царкоўнай залі смачную, добра нарыхтаваную нашымі гаспадынямі вячэру.

Сьвята адкрыў старшыня ЗБК сп. В. Касьцюкевіч, прывітаў прысутных ды перадаў слова д-ру Б. Рагулю, які далей вёў імпрэзу. Галоўны даклад пра 35 год Згуртатваньня Беларусаў Канады чытала др. Раіса Жук-Грышкевіч. Сама дакладчыца брала актыўны ўдзел у працы ЗБК амаль ад самых яго вытокаў, дала вялікі ўклад у жыцьцё Беларусаў Канады й таму даклад ейны быў поўны дэталяў ды трываў блізу гадзіну.

Сп. Мікола Ганько, разважна, цікава й скандэнсавана, расказаў прысутным пра Дзень Гэрояў і яго значэньне.

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі др. Язэп Сажыч у сваім кароткім слове падчыркнуў важнасьць Слуцкага Збройнага Чыну ды выказаў меркаваньне, што нам у лік гэрояў трэба залічаць і такіх людзей, як Янка Філістовіч, што з эміграцыі вярнуўся для змаганьня на Бацькаўшчыне зь ненавісным маскоўскім акупантам.

З запрошаных гасьцей быў на сьвяткаваньні ведамы ўкраінскі іншадумец гісторык др. Валянтын Мароз з жонкай. Абое цяпер жывуць у Тароньце. Коратка прадставіў др. Мароза К. Акула, а др. Мароз выказаў вялікае задаваленьне, што

(Закачэньне на б. 3-й)

# САКАВІКОВАЕ СЬВЯТА Ў НЬЮ ЁРКУ

Сёлета 66-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі будуць адзначаныя ў Нью Ёрку ў **нядзелю 1-га красавіка.**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў БЕЛАСТОЦКІМ КРАІ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЁЙ

**(Працяг з № 314)**

І што бачым па дзецях нашых?

Не навучыўшы іх шанаваць слова бацькоўскае і спадчыну родную, навучылі мы іх акурат пагарды ды і нянавісьці да чалавека беларускага, часамі адкрытае, часьцей прыхаванай у глыбінях душы. Яны ў месцы свае працы наагул не прызнаюцца да таго, што праваслаўнымі ёсьць, і яны разам з каталіцкай большасьцю паслухмяна ходзяць на касьцельныя набажэнствы. І жэняцца, і замуж выходзяць ужо там (хоць за нашы, бацькі-маткі, грошы, ня ў прытык кажучы тое).

Не хачу, каб гэта зразумета было як і процікаталіцкае штосьці. Будзь ты сабе католік, чалавеча. Толькі зьлітуйся ты над сваёй новай вераю, не кажы яхідна ўсякія подласьці на праваслаўных, а затым і на Беларусаў, якіх і безь цябе б'юць ды штурхаюць, хто хоча і як хоча! Бо падатлівыя, аж дзіва дзіўнае бярэ!

***

Каталіцкі Рым дапусціўся мноства памылак у сваіх зносінах з масамі вернікаў. Адною зь вялікіх ягоных памылак тых трэба лічыць нешанаваньне народаў, што выяўлялася ў прымусе слухаць багаслужбу ды маліцца палатыні. Бунт супраць таго меў месца даўно, пад канец сярэдніх вякоў, калі ўзьнік рух пратэсту, пратэстантаў, што зьвязана са зьяўленьнем Лютэра ў Нямеччыне ці Гуса ў Чэхіі. Польскае каталіцтва выратаваў таленавіты ксёндз Пётр Скарга, стаючыся польскім патрыётам ды залатавусным польскае рэлігійнае вымовы, выслоўя.

Каталіцкая вера па беларускіх-жа землях вельмі нядаўная, першыя касьцёлы, напрыклад, у Беластоцкім Краі пачалі будаваць усяго ў шаснаццатым стагодзьдзі і толькі пры дварох вяльможаў. Паны пераходзілі ў так званую польскую веру, бо яна гарантавала ім кар'еру! Праваслаўны пан ня мог заняць ніякае пасады. Чартарыйскія, Касьцюшкі, Радзівілы, Сапегі, Глябовічы, Кішкі зрабіліся важнымі тады, калі пакінулі праваслаўе, перахрысьціліся. Такая гістарычная праўда. Мужыкамі ніхто ня цікавіўся, мужык мог застацца сабе і праваслаўным (уся Беларусь была праваслаўнаю!)

Таму ясна, чаму нашы людзі называлі каталікоў як тых, хто ёсьць „панскай веры".

Пан — каталік, мужык — праваслаўны. Ніхто з нашых бацькоў ці дзядоў не памятае пана-праваслаўнага (хіба што быў ім, прысланы пры царох нейкі Расеец, афіцэр і гуляка зазвычай).

Каталікі пачаліся ў нашых вёсках тады, калі царскія ўлады ўзяліся гвалтам ліквідаваць вуніяцтва, у палове дзевятнаццатага стагодзьдзя. Паніка ў той час была такая, як у першую вайну падчас „бежанства", калі ўцякалі адны праваслаўныя (каталікі не), баючыся таго, што Немцы будуць забіваць „рускіх" мужчынаў ды ганьбіць „рускіх" жанчынаў і дзяўчат. А сто гадоў назад, у часе забароны вуніі, некаторыя ксяндзы пусьцілі, напрыклад, чутку, што той, хто зробіцца каталіком, ня будзе служыць у салдатах ... Так дайшло да акаталічаньня Сакольскага павету, і Беластоцкага таксама нямала (касьцёл у Ялоўцы быў вуніяцкай царквою, як і касьцёл у Шудзялаве каля Саколкі, ці ў Кузьніцы, Янаве, Карыціне, Сухаволі, Дуброве і г.д.).

А яшчэ трэба памятаць і аб тым, што мужыку надта імпанавлала тое, што ён стаўся чалавекам „польскай веры" і кленчыць перад алтаром разам з панам з блізкага маёнтку, і зь яго паняю, і з панятамі іхнымі, такімі чысьценькімі паенкамі ды панічамі. Гэта псыхалягічная справа, і расейская акупацыя ні трохі ня зьменшыла яе. Польскі пісьменьнік Мэльхіяр Ванькові́ч, які родам з-пад Мінску, напісаў у сваіх успамінах, як адзін мужык адказаў на пытаньне расейскага ўрадніка пра „вероисповедание": „Гаспадзін, німа мне чым хваліцца — мужыцкай я веры!"

Каталіцкія біскупы не палічыліся з моваю нашых людзей, у касьцёлах маліліся і надалей моляцца адно папольску, робячы цяпер з таго і палітычную справу: каб як найбольш было Палякаў пад „усходняй сьцяною" (г. зн. пад савецкай граніцаю). Папанску моляцца яны.

І як быццам у канкурэнцыю польскім асымілятарам-ксяндзом, праваслаўныя сьвятары трымаюцца расейскае мовы, а ў гарадох думаюць, што праваслаўе вельмі ўзмоцніцца, калі зробіцца яно польскім (Польшчу хочуць аправаславіць?). Прабачце, ці грэх ці ўжо два за тое!

***

Так дайшло да таго, што хто католік, той ёсьць адразу Паляк. А той, хто праваслаўны, лічыцца так званым рускім, не расейскім (а тут-жа не Расея, тут Беларусь у мове ды звычаях, таму правільна завуць іх Беларусамі). Такім чынам масу беларускіх католікаў усьвядомлена на Палякаў, і яны хочуць імі быць, бо ў гэтым штосьці лепшае, панскае. Праваслаўныя традыцыйна чуюцца горшымі перад католікамі. Яны масава пераходзяць у гэтую новую веру, абы была аказія — пры кавалеры-католіку ці нарачонай-каталічцы. Каму-ж гэта ня мiла стацца панам?! Ну, хоць-бы падпанкам ...

Зразумеўшы гэта, мы зразумеем той, здавалася-б, абсурд у нашай гісторыі ды культуры. Менавіта тое, што Беларусь вывелі ў Эўропу і шырокі сьвет якраз не праваслаўныя, бо імі былі цёмныя мужыкі паншчынныя, якіх калісьці перарабілі былі ў вуніятаў. Культураю мог займацца адно багаты чалавек, пан, а ён быў, вядома, католікам. Зь беларускіх паноў, тых надта рэдкіх, якія не паддаліся польскаму нацiску ці-бо расейскаму, былі Францішак Скарына і Мікола Гусоўскі, творцы Рэнэсансу ў беларускім старонні; Ян Баршчэўскі і Ян Чачот, якія адрадзілі нашае слова пасьля ўпаду паляпізатарскае Рэчыпаспалітай Першай; Вінцук Дунін-Марцінкевіч і Кастусь Каліноўскі, бацькі нашай новай літаратуры і палітыкі, незалежнай ад Варшавы ці Пецярбургу; Францішак Багушэвіч і Адам Гурыновіч, стваральнікі беларускага нацыянальнага патрыятызму і ідэі незалежнасьці Беларусі, як асобнае рэспублікі; Іван Луцэвіч (інакш: славуты Янка Купала), ад якіх і пачаўся наш цяперашні гонар Беларусаў на парозе дваццаць першага веку, людзі геніяльныя! Першым праваслаўным-жа творцам беларускай культуры стаўся Кастусь Міцкевіч (Якуб Колас), дзяды якога настолькі зьбяднелі, што парабіліся мужыкамі, значыць, і праваслаўнымі.

(Між іншага, у рамане Алега Лойкі „Янка Купала", расейскае выданьне, Масква, выд. „Молодая гвардия", 1982, б. 22, сказана, што дзед Якуба Коласа, Казімер, быў вуніятам. — Рэд. „Б-са".)

З часам, калі пачаўся капіталістычны рух у Расейскай Імпэрыі, і бедныя маглі стацца багатымі, хоць ня кожны, у нашу беларускую культуру ўсё часьцей прыходзілі людзі зь цёмных нізінаў. Разам зь перамогаю сацыялістычнага ладу ў Расеі, потым і ў Польшчы, гэты прыход у сваё ўсякіх талентаў адбываўся без аніякіх перашкодаў.

Заўважце аднак, што дзіўнае здарылася ўжо на нашых вачах! Разам са зьнікненьнем паноў, шляхты, перасталі прыходзіць у нашу культуру людзі каталіцкія. Дочкі і сыны каталіцкіх мужыкоў зь вёсак ненавідзяць сваю мову і культуру беларускую, пруцца ў „панскую", у польскую-ж, аддаючы ёй свой прыроджаны талент і здольнасьці. Застаюцца пакуль што Беларусамі толькі адны праваслаўныя, але і тыя стараюцца быць панамі і ўжо Палякамі.

Рэвалюцыя адбылася, няволя мужыкоў і работнікаў зьнішчана, цяпер кожны жыве наагул заможна, але і кожны хоча быць гэтым як-бы шляхціцам, гэтым лепшым, ганьбуючы народнай песьняй і словам. Гэта значыць, што спачатку нашы людзі топчуць сваю мову і культуру, каб зараз-жа затаптаць таксама і праваслаўе, як знак іхнага мужыцкага паходжаньня?

Усе стануць панамі, усе — католікамі, і беларускі народ прападзе толькі таму, што калісьці Рым ня прызнаў яго за народ? а праваслаўе за хрысьціянскую веру??!

Наш лёс нацыянальны ў руках Рыму, а не ў руках народнае ўлады, улады рабочых і сялян?

Паны помсьцяць нам са свае фэўдальнае магілы?

**(Працяг у наступным нумары)**

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ

**(Заканчэньне з б. 1-й)**

кі ад таго часу, паводля А. Бэргман, ён стаўся агульна прызнаным вядучым ідэёлягам незалежнае беларускае дзяржавы.

Ад 1920 году Антон Луцкевіч наастала асяліўся ў Вільні, ачоліў там г. зв. Краёвы Цэнтар, нелегальную арганізацыю беларускіх незалежнікаў. Трымаў ён тады кантакты з асяродкамі Беларусаў у Празе, Бэрліне, у Ліцьве, а таксама ў савецкай Беларусі, стаяў на чале Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Працаваў таксама ў гімназіі, выдавецтве, друку. Пад канец 1920 г. спрабаваў аднавіць „Нашу Ніву", але выйшла адно 9 нумароў.

Калі ў студзені 1922 г. адбываліся выбары ў сойм, Антон Луцкевіч узначаліў Цэнтральны Выбарчы Камітэт, хоць свае кандыдатуры ў сойм выставіць не дазволіў, каб ня было гэта вытлумачана як прызнаньне ўрадам Беларускае Народнае Рэспублікі, на чале якога Луцкевіч нядаўна стаяў, легальнасьці далучэньня да Польшчы Заходняе Беларусі.

Па выбарах у сойм А. Луцкевіч адыйшоў аднак ад актыўнага палітычнага жыцьця, а засярэдзіўся больш на навукова-культурнай працы: выдавецтве, перакладаньні школьніх падручнікаў, публіцыстыцы, асабліва сьціраванай па падзеі ў савецкай Беларусі.

Афіцыйнае стаўленьне да Антона Луцкевіча з боку палітычных і навуковых колаў Беларускае ССР, піша А. Бэргман, было тады прыхільнае. У часе працэсу над дзеячамі Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады ў Вільні ў 1928 г. маскоўская газэта „Правда", кажа Бэргман, назвала Антона Луцкевіча, як аднаго зь лідэраў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, зьмясьціўшы нат ягоную фатаграфію.

Тым ня менш, дачыненьні ў Антона Луцкевіча зь левымі ня былі без канфліктаў. Гэтак, прыкладам, ён адмовіўся ўвайсьці ў Грамаду. Але, калі яго ў 1928 г. арыштавалі, у часе сьледзтва казаў, што ён — сацыяліст, прыхільнік тэорыі Маркса.. Седзячы ў віленскай турме на Лукішках, А. Луцкевіч напісаў сваю брашуру „За дваццаць пяць гадоў".

Калі ў першай палавіне 1928 г. адбываўся над А. Луцкевічам суд, дык паводля А. Бэргман (якая сама была актыўнай сяброўкай камуністычнае партыі Заходняе Беларусі ад 1925 году) ня было ніводнага сьветкі, які ня ведаў-бы братоў Івана й Антона Луцкевічаў; усе падкрэсьлівалі іхную ахвярнасьць, адданасьць, больш як сьціплы спосаб жыцьця. Заля суду, кажа Бэргман, сталася месцам услаўленьня дзейнасьці абодвых братоў у першым пэрыядзе нацыянальнага адраджэньня Беларусі.

Антона Луцкевіча суд зволыніў, як і некаторых іншых дзеячоў Грамады. Звальненьне гэтае, кажа Бэргман, было дасягнутае коштам ягонае адмовы ад супрацоўніцтва з камуністамі, што Бэргман заве „першым актам ягонае антыкамуністычнае дзейнасьці".

Пад канец 1930-х гадоў, піша Бэргман, Луцкевічава вера ў „рэальную палітыку кампрамісаў", відаць, пахіснулася. У 1939 г. ён быў у кантакце зь левым львоўскім часапісам „Сыгналы". Апошні нумар гэтага часапісу прысьвечаны вылучна беларускім справам, а тры артыкулы ў ім напісаныя Антонам Луцкевічам.




**З газэты „Правда" за 25. II. 1928.**

Калі ў Вільню ў верасьні 1939 г. прыйшла Чырвоная Армія, Антон Луцкевіч, кажа А. Бэргман, вітаў яе на Лукіскім пляцы ды выказваў надзею, што беларуская інтэлігенцыя будзе супрацоўнічаць з новаю ўладаю.

Але ў кастрычніку таго-ж году савецкая ўлада арыштавала Антона Луцкевіча ды выслала яго на загубу.

**Янка Запруднік**

### ПЕРШЫЯ ЎГОДКІ ФЭДЭРАЦЫІ СВАБОДЫ

15-га студзеня сёлета мінуў год ад часу заснаваньня ў Вашынгтоне Фэдэрацыі Свабоды — кааліцыі арганізацыяў, у якую ўваходзяць 16 нацыянальнасьцяў, у тым ліку й беларуская. Беларусаў у Фэдэрацыі прадстаўляе інж. Васіль Мельяновіч ды іншыя асобы ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Мэта Фэдэрацыі Свабоды: падтрымваць вызвольныя змаганьні: у Афганістане, Анголе, Нікарагве ды Паўдзённа-Ўсходняй Азіі; падтрымваць справу абароны правоў чалавека ды ў гэткім духу браць удзел у ідэялягічных і эканамічных канфліктах, падтрымваць палітыку абароны Злучаных Штатаў.

У адным із сваіх леташніх бюлетэняў Фэдэрацыя Свабоды выказала станоўкае падтрыманьне амэрыканскіх Беларусаў у іхным дамаганьні, каб у праграмы „Голасу Амэрыкі" былі ўведзены перадачы пабеларуску.

### НЯМЕЦКАЯ АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ

У дадатак да нататкі „Беларуская анталёгія панямецку", што была зьмешчаная ў № 311 „Беларуса", падаем наступнае:

Кніжка Фэрдынанда Нойрайтэра „Беларуская анталёгія. Чытанка беларускае літаратуры (зь нямецкімі перакладамі)" — гэта другое выданьне ў сэрыі „Славянскія дасьледваньні", выдрукаванае ў Мюнхэне ў выдавецтве Отта Загнэра. Раней у гэтай сэрыі выйшла праца а. Маскаліка пра Янку Купалу.

У анталёгію Нойрайтэра ўключаныя гэткія аўтары, як К. Сваяк, А. Гарун, Ул. Дубоўка, М. Гарэцкі, Я. Пушча, Л. Геніюш, пісьменьнікі Беласточчыны А. Барскі й С. Яновіч.

Як зазначае аўтар-укладальнік, вялікую дапамогу ў рэалізаваньні гэтае працы даў а. Ал. Надсон, дырэктар Бібліятэкі імя Скарыны ў Лёндане, а таксама сп-ня Ларыса Урбан. Згадвае аўтар і аб тым, што аднэй зь цяжкасьцяў была нястача беларуска-нямецкага слоўніка й падручніка беларускае мовы для Немцаў. Аб патрэбе беларуска-іншамоўных слоўнікаў ціраз пісалася ўжо ў друку, але, нажаль, Акадэмія Навукаў БССР застаецца глухой да гэтае праблемы.

Бясспрэчна, што кніжку Ф. Нойрайтэра трэба набыць для кожнае беларускае калекцыі. Выпісаць анталёгію можна з выдавецтва Отта Загнэра ў Мюнхэне.

**В. К.**

# ЭМІГРАЦЫЯ — НЕДАСЬЛЕДАВАНАЯ ТЭМА

Зьява эміграцыі зь Беларусі ў Сібір, на Ўкраіну, а таксама за акіян — у Злучаныя Штаты Амэрыкі, Канаду ды краіны Паўдзённае Амэрыкі — бадай што не дасьледаваная. Часам зьяўляюцца ў беларускім савецкім друку невялічкія нататкі, разьдзелы ў кніжках, або вельмі агульныя выказваньні аб выездах зь Беларусі, але большых публікацыяў на гэтую тэму няма.

Праўда, апошнім часам, сьледам за беларускім дэмографам А. Ракавам, пачалі й іншыя падаваць лікі, якія сьветчаць аб размаху эміграцыі. Гэтак, прыкладам, у выдрукаваным летась у Менску даведніку **В. Ф. Борушко, Белоруссия: люди, события, факты** (изд. 2-е) сказана, што да Другое сусьветнае вайны зь Беларусі выехала ў іншыя краіны каля мілёну жыхароў ды што цяпер у Канадзе, Злучаных Штатах Амэрыкі, Аўстраліі, Аргентыне, Францыі і іншых краёх жывуць сотні тысячаў Беларусаў.

На добры лад, гэтую статыстыку варта было-б павесьці й далей — у пэрыяд ваенны ды паваенны, калі Беларусь згубіла на эміграцыю яшчэ колькі сотняў тысячаў жыхароў. Савецкая ўлада аднак, кажучы мякка, выяўляе няпрыхільнасьць да дасьледаваньня эміграцыі зь Беларусі, хоць, прыкладам, эміграцыйныя працэсы дасьледваліся на Ўкраіне, а ў Польшчы дзеіць спэцыяльны інстытут, які вывучае эміграцыю. Афіцыйна ў БССР дасьледнікі эміграцыі кіруюцца формулай „эміграцыя — зьява эканамічная" і далей за гэтую формулу ня йдуць. Пэўна-ж, асноўнай прычынай эміграцыі ў нас была эканоміка, аднак былі й прычыны палітычныя, рэлігійныя ды іншыя.

Вось-жа эміграцыя зь Беларусі пачыналася якраз з прычынаў палітычных, асабліва пасьля паўстаньня 1863 г. Кастуся Каліноўскага. Уцякалі тады нашыя суродзічы ад акупацыйнага расейскага разгулу Мураўёва ў Францыю, Паўдзённую Амэрыку ды ў Злучаныя Штаты. І сёньня жыве цімала праўнукаў паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў штатах Канэктыкут, Нью Джэрзі ды Нью Ёрк.

Па паўстаньні Каліноўскага пачалася неўзабаве эміграцыя зь Беларусі й эканамічная — у Сібір ды ў Амэрыку. І вось якраз дасьледаваць гэтую зьяву ў БССР не дазваляецца. Бо-ж у Сібіры нашыя людзі гвалтам русыфікаваліся, хоць шмат хто й да сёньня з тых перасяленцаў уважае сябе за Беларуса.

Піянэрам вывучэньня беларускае эміграцыі была газэта „Наша Ніва" (1906-1915). Газэта дацэньвала значаньне эміграцыі ды ўважала, што з эміграцыяй трэба мець сувязь. Праўда, „Наша Ніва" ня ставілася прыхільна да зьявы эміграцыі, бо дзеячы „Нашай Нівы" ўважалі, што эміграцыя забірае маладыя працоўныя сілы зь Беларусі, а гэта шкодна для краіны. Аднак, было вельмі важным, што „Наша Ніва" аналізавала прычыны эміграцыі ды зазначала, што пакуль каляніяльны стан Беларусі ня зьменіцца, роднаму краю давядзецца губляць сваё жыхарства.

Пасьля „Нашай Нівы" эміграцыі зь Беларусі бадай ніхто ня вывучаў. А выезд маладога працоўнага жыхарства зь Беларусі трывае аж да сёньня.

Пры савецкай уладзе было колькі фазаў масавага высяленьня зь Беларусі. Гэтак, першай стадыяй высяленьня была пара „раскулачваньня" й калектывізацыі 1930-мі гадамі. Было выселена колькі сот тысячаў жыхароў. Потым былі вывазы 1940-41 гадоў. Паваенны 1946 год таксама памятны, бо высяляліся людзі, што пабылі пад нямецкай акупацыяй. Потым ідуць незабыўныя „дабраахвотныя" перасяленьні й выезды на цаліну. Ды праз усе паваенныя гады ўлады усяляк імкнуцца заахвоціць беларускае жыхарства на выезд: у Сібір, Карэлію, Казахстан ды іншыя раёны й рэспублікі СССР.

Фактычна, вось ужо больш за сто гадоў Беларусь губляе ладную частку свайго працаздольнага жыхарства. Працэс гэты, пачаты за расейскімі царамі, зь вялікім узмоцненьнем працягваецца пад савецкай уладаю. Бадай як у ніякім іншым аспэкце каляніяльнае маскоўскае палітыкі, у аспэкце народаперасяленьня яскрава выступае цяглясьць і спадкаемства палітыкі царскае й палітыкі савецкае.

Праўдападобна, у гэтым і ёсьць асноўная прычына таго, чаму ў БССР не аналізуецца працэсу эміграцыі зь Беларусі.

**Вітаўт Зубкоўскі**

# 17-АЯ КНІГА "ЗАПІСАЎ" БІНІМ

„Дзеля праўды і справядлівасьці трэба проста і шчыра сказаць, што калі мы сёньня адзначаем 25-ыя ўгодкі Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, дык гэта ў значнай ступені толькі дзякуючы самаахвярнасьці і шматлікім намаганьням аднае асобы, аднаго вучонага і энтузіяста доктара Вітаўта Тумаша". Гэта словы з уступной прамовы **др. Вітаўта Кіпеля** на навуковай канфэрэнцыі, якая адбылася ў лютым 1977 г. ў Сытанголскім Унівэрсытэце, што ў амэрыканскім штаце Нью Джэрзы, з нагоды 25-гадовага юбілею БІНіМ.

Як слушна адзначыў у сваёй прамове др. Кіпель, 25 год таму нам, беларусам, не ставала 7000 балонак друкаванай навуковай інфармацыі пра Беларусь, інфармацыі, якую цяпер маем дзякуючы якраз 25-гадовай дзейнасьці Інстытуту, заснаванага 16-га сьнежня 1951 г. у Нью Ёрку, прычым інфармацыі часта піянэрскай пра Беларусь, пра ейную гісторыю, культуру, мову, рэлігію, мастацтва, літаратуру, асьвету.

17-я кніга „Запісаў" — гэта, з аднаго боку, сьветчаньне тае ўсебаковае дзейнасьці, а з другога — свайго роду падсумаваньне й агляд дасягненьняў БІНіМ за пэрыяд ад 1951 г. па канец 1976 году. Адначасна яна і вянок 25-гадовай самаададнай навуковай працы нашага другога „доктара лекарскіх навукаў", які чвэрць стагодзьдзя свайго жыцьця прысьвяціў Інстытуту.

У 17-ай кнізе „Запісаў" БІНіМ 19 артыкулаў 18-цёх аўтараў на розныя беларусаведныя тэмы. Усе артыкулы, апрача аднаго, у ангельскай мове. Да кожнага ангельамоўнага артыкулу дадзены кароткі пераказ пабеларуску. Матар'ял кнігі разьмеркаваны паводля галінаў: літаратураведа, мова, выяўленчае мастацтва, музыка, архіўныя зборы, геаграфія, гісторыя, рэлігія, асьвета, друк, рэцэнзіі і, нарэшце, хроніка канфэрэнцыяў і рэфэратаў, літаратурных сустрэчаў і вечароў ды мастацкіх выставак 1979 году.

Пасьля ўступнога слова рэдактара кнігі, **праф. Квінскага Каледжу ў Нью Ёрку Томаса Бэрда** ды згаданай прамовы др. В. Кіпеля, ідзе агляд 25-гадовай дзейнасьці Інстытуту, зроблены яго старшынём **др. Вітаўтам Тумашам.** Мэтаю Інстытуту, — сказаў др. Тумаш, — было згрупаваць беларускіх навукоўцаў, дасьледнікаў беларусаведы і беларускіх пісьменьнікаў, мастакоў і артыстаў, якія ў выніку падзеяў Другое сусьветнае вайны апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. Інстытут быў залегалізаваны як Беларуска-Амэрыканская Навукова-Дасьледніцкая Ўстанова. Інстытут адразу разгарнуў сваю дзейнасьць як у Злучаных Штатах, гэтак і паза Амэрыкай. Філіі Інстытуту паўсталі ў Заходняй Нямеччыне ў 1955 г. і ў Канадзе ў 1967 г.

Др. В. Тумаш падаў статыстычныя дадзеныя пра дзейнасьць Інстытуту на працягу 25 год свайго існаваньня. Гэтак, былі зладжаныя ў Нью Ёрку 202 навуковыя зборкі, на якіх было прачытана 180 рэфэратаў, а разам зь філіяламі Нямецкім і Канадзкім — 239 рэфэратаў. Апрача гэтага, сябры Інстытуту прачыталі яшчэ каля 200 рэфэратаў на міжнацыянальных канфэрэнцыях. Інстытут арганізаваў таксама 10 мастацкіх выставак і 6 выставак зь беларускае культуры.

Ад 1952 г. БІНіМ выдае навуковы часапіс „Запісы", а ў гадох 1954-63 друкаваліся „Конадні" — літаратурна-мастацкі часапіс, якога выйшла 7 кнігаў (усяго разам 688 б.б.). Між 1953 і 1969 г.г. выдаваўся і нутраны бюлетэнь Інстытуту — „Абежнік", якога выйшла 17 нумароў.

Кніжных публікацыяў Інстытуту налічваецца колькі дзесяткаў. Сярод іх гэткія, як „Спадчына" Янкі Купалы, „Матчын Дар і іншыя творы" Алеся Гаруна, „Вянок паэтычнай спадчыны" Максіма Багдановіча, „Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў" Ст. Станкевіча, „Міцкевіч і беларуская плынь польскае літаратуры" Сымона Брагі, „У сьвятле гістарычнае праўды" Паўла Урбана, „Прыказкі Лагойшчыны" Адама Варлыгі, „Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году" Сымона Брагі, „Між Берагамі" Натальлі Арсеньневай ды інш. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць піянерскія манаграфіі С. Брагі „Доктар Скарына ў Маскве", „Лякалізацыя жыцьцяпісу Доктара Скарыны" і „Пытаньне імя Доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры".

Пра дзейнасьць канадзкага філіялу Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва паінфармавала на канфэрэнцыі 1977 г. **Івонка Шыманец-Сурвіла.** Апрача рэфэратаў, найбольшых імпрэзы, ладжаныя Інстытутам, былі: адзначэньне 450-х угодкаў беларускага друку, 2 беларусаведныя канфэрэнцыі — адна ў 1971 г. супольна з Квінскім Унівэрсытэтам у гор. Кінгстане, а другая ў 1975 г. супольна з Атаўскім Унівэрсытэтам у сталіцы Канады Атаве, ды шэраг выставак.

Наступныя тры артыкулы прысьвечаныя пытаньням беларускае літаратуры. **Др. Ст. Станкевіч** зрабіў агляд трох паваенных выданьняў зборау твораў Янкі Купалы ды прааналізаваў стаўленьне да іх савецкае цэнзуры.

**Др. Вольга Арэхва** ў артыкуле пра тры гістарычныя паэмы Янкі Купалы — „Курган", „Бандароўна" і „Магіла Льва" — гаворыць пра імкненьне Купалы азнаёміць чытача зь гісторыяй Беларусі праз спалучэньне гістарычных тэмаў і матываў народнае творчасьці ў мастацкіх вобразах.

**Ант. Адамовіч** разглядае ў сваім артыкуле актуальную праблему пачаткаў беларускае літаратуры. Першы нацыянальны гісторык беларускай літаратуры Максім Гарэцкі, — піша аўтар, — разьвязаў гэтую праблему зусім проста і лягічна: ён пачынаў гісторыю беларускай літаратуры ад пачатку пісьменства ў г. зв. царкоўна-славянскай мове, так ці інакш зьвязанага зь Беларусяй. Тымчасам праф. Яўхім Карскі, а за ім і іншыя савецкія аўтары пачынаюць гэтую гісторыю ад памятак у беларускай мове, хоць некаторыя савецкія гісторыкі беларускае літаратуры стараюцца так ці інакш увесьці ў яе і царкоўнаславянскія памяткі.

**Др. Янка Садоўскі** ў сваім артыкуле **„Дасьледваньні аб Францішку Скарыну па Другой сусьветнай вайне на Захадзе"** даў дакументальна-бібліяграфічны аналіз важнейшых адкрыцьцяў і ўдакладненьняў у дзейнасьці й творчасьці Ф. Скарыны, як прыкладам устанаўленьне новае даты пачатку друку ў Вільні ў 1522 годзе, выяўленьне Скарынавага партрэту ў Падуанскім унівэрсытэце, канчальнае ўстанаўленьне запраўднага імя доктара Скарыны — Францішак, ды іншае.

**Праф. Юры Шавялёў** артыкулам „Праблема супольнага беларуска-ўкраінскага фаналягічнага разьвіцьця" робіць грунтоўны ўклад у пытаньне беларуска-ўкраінскіх пісьмова-моўных сувязяў на працягу тысячагадовае гісторыі.

Далейшыя тры артыкулы прысьвечаныя пытаньням мастацтва. **Др. Раіса Жук-Грышкевіч** зрабіла агляд творчасьці беларускіх мастакоў, ілюстратараў і скульптараў на Захадзе; падала багатыя біяграфічныя даныя пра мастакоў, а таксама храналягічны пералік выставак (усіх 21).

**Уладзімер Шыманец** у артыкуле „Мастакі зь Беларусі: Парыская школа" зрабіў агляд творчасьці сямёх выдатных заснавальнікаў Парыскае школы, што паходзяць зь Беларусі: Марка Шагала зь Віцебску, Хаіма Сутына са Сьмілавічаў, Пінкуса Крэменя з Жалудка, што каля Ліды, Сымона Сэгаля зь Беластоку, Восіпа Задкіна з Смаленшчыны, Жака Ліпшыца з Друскенікаў і Міхала Кікойна з Рэчыцы. Насьветленая сувязь зь Беларусяй у жыцьці й творчасьці гэтых мастакоў гэбрэйскага паходжаньня.

**Галіна Русак** у сваім артыкуле „Сучаснае беларускае мастацтва" разглядае тэматыку творчасьці й тэхніку працы мастакоў Беларускай ССР паваеннага пэрыяду. З прычыны абмежанай колькасьці крыніцаў, недахопу патрэбнай інфармацыі ды благой якасьці савецкіх мастацкіх рэпрадукцыяў, адзначае аўтарка, цяжка даць поўны малюнак мастацкае дзейнасьці сучасных беларускіх мастакоў. У гэтай сувязі хацелася-б зьвярнуць увагу на адну крыніцу, зь якой можна зачэрпнуць шмат інфармацыі для гэтае тэмы — гэта тыднёвік „Літаратура і Мастацтва", дзе вельмі часта друкуюцца інтэрвію з мастакамі, гавораць пра іхную дзейнасьць, даецца характарыстыка іхных твораў і да г. п.

**Дзімітры Верасаў** разглядае дзейнасьць і творчасьць беларускіх кампазытараў, хормайстраў і дырыгентаў у Злучаных Штатах, піша пра новыя беларускія музычныя творы ды магчымыя кірункі далейшае дзейнасьці беларускіх музыказнаўцаў на Захадзе. Трэба шкадаваць, што аўтар абмежаваўся адно да Злучаных Штатаў.

**Др. Патрыша Кэнэды Грымстэд** з Гарвардзкага Унівэрсытэту піша на дзьве тэмы: пра архівы й зборы рукапісаў у БССР і пра трансьлітарацыю беларускіх геаграфічных назоваў. У першым артыкуле аўтарка гаворыць пра цяжкасьці й перашкоды, што існуюць у вывучэньні архіўных сховішчаў Беларусі; апісвае архіўныя сховішчы Беларускай ССР. У другім артыкуле падае слоўнік важнейшых беларускіх геаграфічных назоваў з польска-расейскімі эквівалентамі і робіць заўвагі пра існуючыя правапісныя правілы перадачы беларускіх геаграфічных назоваў. Пытаньне геаграфічных назоваў у нас цяпер вельмі актуальнае, яно часта закранаецца ў рэспубліканскім друку ў сувязі з блытанінай, якая йснуе ў гэтай галіне.

**Др. Вітаўт Кіпель** у артыкуле „Раньняя прысутнасьць Беларусаў у Амэрыцы" робіць аналіз прычынаў, чаму Беларусы, імігруючы ў Амэрыку, траплялі ў іншыя нацыянальныя статыстычныя рубрыкі, пераважна ў польскую або расейскую. Аўтар піша таксама пра Беларусь як апрычонае культурнае паняцьце ў амэрыканскай літаратуры і пра наяўнасьць у Амэрыцы сьлядоў раньняй беларускай спадчыны.

**Др. Янка Запруднік** піша на тэму „Савецкая дакумэнтацыя гісторыі Беларусі (1902-1919 г.г.)". Аўтар паказвае, што ў савецкіх дакумэнтальных выданьнях ігнаруюцца дакумэнты, у якіх адлюстраваная гісторыя беларускіх небальшавіцкіх партыяў, а таксама культурны аспэкт у гісторыі беларускіх бальшавіцкіх партыяў. Бяз гэткае дакумэнтацыі — кажа аўтар, — нельга належна прасачыць станаўленьне ідэі беларускае дзяржаўнасьці.

**Праф. Томас Бэрд,** базуючыся на дакумэнтах і багатай бібліяграфіі, піша пра праваслаўе ў Беларусі ў часе 1917-1980 г.г. Гэта, фактычна, цэлая манаграфія пра шлях і разьвіцьцё аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы. У артыкуле пададзеныя сьпісы епархіяў, пэршагіерархаў і епіскапаў БАПЦ, пераклады статуту БАПЦ 1942 г. ды іншых дакумэнтаў, а таксама багатая літаратура. Праца праф. Т. Бэрда — выдатны ўклад у гісторыю Беларускае Праваслаўнае Царквы.

**Валянціна Пашкевіч** у артыкуле „Навучаньне беларускае мовы ў англамоўным асяродзьдзі" разглядае мэтадалёгію й праграмы беларускіх школаў у Злучаных Штатах і Канадзе, праблему падручнікаў ды дапасаваньня тэматыкі.

**Васіль Мельяновіч** піша на тэму „Беларусаведа ў сярэдніх школах і двухгадовых каледжах штату Мэрыленд". Разглядае і дае ацэнку падручнікаў, праз якія даюцца амэрыканскім вучням веды пра Беларусь. Аўтар абмяжоўваецца адным толькі штатам. Было-б вельмі карысна даведацца, як стаіць гэтая справа ў іншых штатах Амэрыкі. Цікавая дасьледная тэма для амэрыканскіх студэнтаў беларускага паходжаньня.

Апошні артыкул у 17-ай кнізе „Запісаў" — артыкул **Уладзімера Брылеўскага: „Польскі замежны друк пра Беларусь".** Гэта адзіны артыкул у беларускай мове. Чытаючы яго, само сабою просіцца пытаньне: а што піша пра нас друк іншых нашых суседзяў? Варта было-б падумаць пра гэта сябром Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

У 17-й кнізе „Запісаў" толькі дзьве рэцэнзіі: адна пра зборнік артыкулаў „Франциск Скорина и некоторые вопросы развития книги в Советском Союзе" (Вільня, 1979), другая — на зборнік паэзіі Натальлі Арсеньневай „Між Берагамі" (Нью Ёрк, 1979). Далей ідзе інфармацыя пра 3-ці Беларускі Фэстываль у ЗША ды навукова-культурная хроніка 1979 году.

**В. Сянькевіч**

## „ПАХОДЖАНЬНЕ ЛІТОЎСКІХ КНЯЗЁЎ"

Пад гэткім загалоўкам выйшла летась у ньюёркаўскім выдавецтве „Летапіс" брашура Л. Галяка на 42 бачынкі. У канцы брашуры — кароткае рэзюмэ ейнага зьместу паангельску.

# КНІГАВЫДАВЕЦТВА Ў БССР у 1984 ГОДЗЕ

У Беларусі цяпер ёсьць дзевяць кніжных („Беларусь", „Мастацкая Літаратура", „Вышэйшая Школа", „Навука і Тэхніка", „Народная Асьвета", „Юнацтва", „Ураджай", „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" і „Выдавецтва Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту"), адно кніжна-часопіснае і адно газэтна-часопіснае выдавецтвы. Што гэтыя выдавецтвы прапануюць сёлета чытачу? Нашыя меркаваньні й высновы будзем базаваць на назовах выданьняў, пра якія ў анатаваных тэматычных плянах падаецца канкрэтная інфармацыя.

Вось-жа паводля нашых падлікаў, кніжныя і кніжна-часопісныя выдавецтвы Беларускай ССР плянуюць выдаць у 1984 г. 1508 публікацыяў — на 11 назоваў больш як было запляванава на 1983 год. У гэты лік уваходзяць ня толькі кнігі й брашуры, але таксама й плякаты, фатаальбомы, паштоўкі, буклеты, зборнікі й пэрыядычныя выданьні ды іншае.

Што да тыражу, дык з анатаваных тэматычных плянаў вынікае, што ён дасягне 25.809.400 экзэмпляраў, крыху менш за летатнія 26 зь лішнім мільёнаў экзэмпляраў.

З моўнага гледзішча справа выглядае наступна: з 1351 публікацыі, пра якія ў каталёгах былі канкрэтныя дадзеныя, 444 (33%) прыпадаюць на беларускую мову, 802 (59%) — на расейскую мову, 61 (4.5%) — на двумоўныя беларуска-расейскія выданьні, 19 (1,5%) — на замежныя мовы, а рэшта 25 назоваў — гэта альбомы, паштоўкі, фатавыданьні ды падобнае, якія выдаюцца часамі ў некалькіх мовах.

Найбольш свае прадукцыі ў роднай мове выдае „Мастацкая Літаратура": 31,5% прадукцыі гэтага выдавецтва выходзіць у беларускай мове. „Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя" выдае 71,4% пабеларуску. „Юнацтва", якое летась займала другое месца, сёлета зойме трэйцяе — 66,4% сваіх выданьняў выпусьціць пабеларуску замест леташніх 74-х працэнтаў. Далей ідуць: „Народная Асьвета" — 51,3%, „Навука і Тэхніка" — 25,3%, „Беларусь" — 25%, „Выдавецтва Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту" — 12%.

Выдавецтвы, якія выпускаюць сваю кніжна-пэрыядычную прадукцыю пераважна ў расейскай мове — гэта „Полымя" (90%), „Вышэйшая Школа" (95%) і „Ураджай" (98%).

Цяпер колькі слоў пра перакладную літаратуру. Справа мастацкага перадруку ў Беларусі, што і гаварыць, заўсёды стаяла дрэнна. Звычайна выдавалася ад трох да сямёх кнігаў на год, тымчасам як, скажам, у суседняй Ліцьве выходзіла больш за сотню. Справа гэтага адставаньня беларускага перакладу закраналася ўжо цiраз на старонках рэспубліканскага друку і на пісьменьніцкіх зьездах, але тымчасам без пажаданых вынікаў. Сёлета плянуецца выпусьціць у сьвет 33 перакладныя выданьні з 22-х моваў савецкіх і замежных народаў. Прычым зь 17-цёх замежнамоўных выданьняў на заходняэўрапэйскія мовы прыпадаюць усяго толькі 4 назовы. Што да тыражу перакладной літаратуры, дык паводля нашых падлікаў ён дасягне 568 тысячаў экзэмпляраў, на 127 тысячаў менш як летась.

Зь беларускае-ж мовы выдавецтва „Мастацкая Літаратура" пляную выдаць у перакладзе на расейскую ўсяго 7 назоваў агульным тыражом 148 тысячаў экзэмпляраў.

Такім чынам колькасьць перакладной літаратуры ў Беларусі супраць 1983 году зьнізіцца на 3 назовы, што дазваляе нам сьцьвердзіць, што Беларуская ССР трымаецца й надалей у стане „літаратурнай правінцыі".

Раўнуючы беларускую мастацкую літаратуру 1984 г. да 1960-х гадоў, заўважаецца пэўны прагрэс. Кампанія за павышэньне тыражоў, якая пачалася ў 1958 г., дала пэўныя вынікі. Із стандартных для твораў беларускай мастацкай прозы ў 60-х гадох дзьвюх-трох-пяцёх тысячаў экзэмпляраў, цяпер тыраж павысіўся да 12-14-цёх тысячаў, а паэтычных зборнікаў зь 500 да 4-5 тысячаў, улучна зь першай кнігай паэта. Аднак і гэтага замала. Кніжная прадукцыя ў беларускай мове далёка не задавальняе попыту і патрэбаў рэспублікі й замежнага чытача.

Падсумоўваючы ўсё сказанае, трэба адзначыць, што ўзяты партыйным кіраўніцтвам кірунак на русыфікацыю праз выдавецтвы ня толькі працягваецца, але і ўзмацняецца, довадам чаго — зьніжэньне з 36-цёх да 33-х працэнтаў кніжнай прадукцыі ў беларускай мове, а таксама абмяжоўваньне кантактаў зь літаратурамі іншых краінаў, асабліва краінаў Захаду.

**Язэп Барэйка**

## „БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІ ТЭАТР"

**Ethnic Theatre in the United States.** Edited by Maxine Schwartz Seller. Greenwood Press, 1983.

Пад гэткім загалоўкам зьмешчаны разьдзел у вялікай амэрыканскай кнізе „Этнічны тэатр у Злучаных Штатах", што выйшла летась у выдавецтве „Грынўуд Прэс" у Ўэстпорце (ЗША) і Лёндане (Ангельшчына).

Аўтары разьдзелу — др. Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель. Разьдзел (33 бач. кнігі) пачынаецца экскурсам у гісторыю Беларусі. Аўтары коратка паясьняюць тэрміналягічную заблытанасьць вакол пытаньня аб раньніх пасяленцах у Амэрыцы зь Беларусі, падаюць статыстыку іміграцыі зь Беларусі, апісваюць беларускія традыцыі, зьвязаныя так ці інакш з тэатральнымі паказамі, падаюць асноўнае зь гісторыі беларускае драматургіі.

Беларускія тэатральныя паказы ў ЗША пачаліся у сярэдзіне 1920-х гадоў у Чыкага. Калі-ж напрыканцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў у Амэрыку пачалі масава прыбываць беларускія перасяленцы з Заходняе Эўропы, разгарнулася й дзейнасьць беларускіх самадзейных ды поўпрафэсійных тэатральных гуртоў. Вітаўт і Зора Кіпелі апісалі дзейнасьць гэтых гуртоў і далі сьпіс усіх беларускіх паказаў у Амэрыцы: назоў п'есы, прозьвішча аўтара яе, прозьвішча рэжысэра ды дата й месца паказу. Разьдзел канчаецца даволі багатай бібліяграфіяй для далейшага вывучэньня гэтага пытаньня.

## ПРАПАГАНДА НАРОДНАГА МАСТАЦТВА

Менская газэта „Зьвязда" (26. X. 83) падала:

„З мэтай прапаганды асобных відаў народнага мастацтва выдадзеныя буклеты 'Гліняная цацка', 'Кавальства', падрыхтаваны альбом 'Арнамэнт беларускіх народных тканін', мэтадычныя дапаможнік 'Народная творчасьць'. Рыхтуюцца дапаможнікі для гуртоў 'Беларуская саломка і лаза', 'Беларускія выразкі з паперы'."

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

### НА ВЫДАНЬНЕ ЗБОРУ ТВОРАЎ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

**Падпіска й ахвяры**

Атрымана ў хранялягічным парадку да 10 студзеня 1984 г.

| | | |
|---|---|---|
| 172. | Урбан П. | $ 53.00 |
| 173. | Урбан Л. | 35.00 |
| 174. | Бортнік У. | 18.00 |
| 175. | Цьвірка У. | 35.00 |
| 176. | Сенькоўскі Ю. | 35.00 |
| 177. | Малышка К. | 40.00 |
| 178. | Лазовіч В. | 20.00 |
| 179. | Крыстоў К. | 10.00 |
| 180. | Зімін У. | 20.00 |
| | **Разам:** | $ 266.00 |

**З папярэдняй падпіскай і ахвярамі агульная сума на 10 студзеня 1984 г. $ 5269.00**

**Прысланыя ахвяры на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва:**

| | |
|---|---|
| Будзька Ч. | $ 200.00 |
| Шчорс М. | 100.00 |
| Качан В. (у памяць А. Качана) | 30.00 |
| Гайдзель П. | 40.00 |
| **Разам:** | $ 370.00 |

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паведамляе, што ў бліжэйшым выдавецтве пляне Інстытуту гэткія выданьні:

**Запісы, кніга 18.**
**Бібліяграфія Скарыніяны. Укл. Вітаўт Тумаш.**
**Збор твораў Міхася Кавыля.**
**Купала й Колас на Захадзе: бібліяграфія. Укл. Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель.**
**Скарб Беларусі. Антолёгія вершаў пра родную мову. Укл. Янка Запруднік.**
**Манаграфія праф. Томаса Бэрда пра аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы.**

